ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

# ВОЛЬНАЕ + TV ГЛЫБОКАЕ

Wolne Glebokie

Free Hlybokaye

Жыве Беларусь!

Выдаецца са снежня 1994 г.
№20(80), 8-14 кастрычніка 2001 г.
Кошт па дамове

## Развітальны візіт пасла ў Глыбокае

Сваю заключную рабочую паездку па рэгіёнах краіны Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Германіі ў Беларусі доктар Хор-Вінкельман зрабіў 21 верасня. У той дзень ён наведаў Глыбокае. Год назад такім жа сонечным днём на новых гарадскіх могілках, што ля Глыбокага, з удзелам пасла і прадстаўнікоў Германскага народнага саюза па догляду за воінскімі захаваннямі, быў асвечаны крэст на месце, дзе пахаваны савецкія воіны, мірныя жыхары і італьянскія ваеннапалонныя, што загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Нямецкія госці ўсклалі кветкі ля падножжа помніка ахвярам афганскай вайны.

## Салдатамі не будуць

Па выніках апошняга вясенне-летняга прызыва 100 юнакоў з 310-ці, якіх абследавалі ўрачы, аказаліся непрыгоднымі для службы па стане здароўя. Павялічылася колькасць хворых неўрозам, з траўмамі, з хранічнымі захворваннямі. На ўліку ў раёне 43 падлеткі з паталогіяй разумовага развіцця і яшчэ 133 з затрымкай у развіцці. Імунітэт маладых людзей вельмі аслаблены, і ў свае 18 год хлопцы іншы раз больш падобны на нямоглых старых.

*У. Шык.*

## Глыбокае святкавала Дзень настаўніка









**На здымках: 1.**Старшыня РАНА Тарасевіч Р.І. уручае прэмію дырэктару Гатаўшчынскай школы Ждановічу Г.Н.
**2.** Старшыня РК прафсаюза работнікаў адукацыі Ламачэнка Р.І. выказвае словы ўдзячнасці за доўгія гады працы настаўнікам, якія сёлета пайшлі на пенсію.
**3.** Маладых спецыялістаў запрашалі на сцэну і ўручалі кнігі і кветкі. Усяго ў сям`ю глыбоцкіх педагогаў уступіў 41 чалавек.
**4.** На сцэне РДК выступаў вакальны ансамбль настаўнікаў сярэдняй школы №3. У іх рэпертуары была песня "Настаўніца-глыбачанка", якую прысутныя сустрэлі дружнымі апладысментамі.
**5.** Былая настаўніца матэматыкі Глыбоцкай СШ№3 Варанкова Л.І. падзялілася з маладымі калегамі сваім досведам працы і павіншавала настаўнікаў з іх прафесійным святам.

*Фота А. Храпавіцкага*



*Ідзе прыгажуня, у вачах -- па іскрынцы,*
*А след застаецца на вечным гасцінцы.*

**Г. Пяткевіч**

Гэтыя словы ўсім настаўніцам, выкладчыкам роднай мовы і літаратуры, прысвяціла іх калега Ганна Пяткевіч з СШ №2 г. Глыбокае. І ўсё ж у дзень свята настаўнікаў, мы з перакананнем гаворым, што і фізікі, і матэматыкі, і гісторыкі, і настаўнікі музыкі, малявання, фізкультуры сваёй нястомнай працай пакідаюць след на вечным жыццёвым гасцінцы -- маладое пакаленне, якое парасткамі цягнецца да сонца, удзячна педагогам і за іх урокі школьныя, і за іх мудрасць жыццёвую.

Складана сёння жывецца настаўнікам. У адпачынак ішлі не атрымаўшы адпускных. Летам, замест таго каб займацца самаадукацыяй і адпачываць, настаўнікі палолі дзялкі буракоў, касілі і сушылі сена, завіхаліся на сваіх сотках, рабілі нарыхтоўкі на зіму -- інакш не пражывеш. Гэта пры Польшчы, расказваюць старажылы, перад настаўнікам пры сустрэчы здымалі шапкі і кланяліся, настаўніку стваралі належныя ўмовы працы і годна плацілі, каб не адчуваў сябе жабраком і не выхоўваў жабрацкае па духу падрастаючае пакаленне. Сёння перад настаўнікам ніхто не здымае шапку, сёння настаўнік раб становішча, цяглавы конь, які павінен думаць пра хлеб надзённы, бо не ў сілах зарабіць яго сумленнай цяжкай працай.

Дзяржава, якая любіць паказныя тэатралізаваныя паказальныя «спектаклі», на словах заўсёды клапацілася пра настаўнікаў. Узяць хоць бы трэці Рэспубліканскі з`езд работнікаў адукацыі і навукі. На ім, дарэчы, удзельнічалі і прадстаўнікі Глыбоччыны.

Колькі там было сказана добрых патрэбных чаканых слоў у адрас настаўнікаў. Здавалася, ужо заўтра, нясмешчаны ўвагай дзяржавы, настаўнік апынецца ў раі. Але ўсе абяцанні і запэўніванні да цяперашняга засталіся прыгожымі гучнымі і пустымі словамі, якія далёкім рэхам гучаць у вушах былых дэлегатаў, пацвярджаючы лішні раз «імпатэнтнасць» дзяржавы, якая не здольна адказваць за свае ўчынкі і словы.

Але ў дзень свята не хочацца гаварыць толькі пра сумнае. З нагоды сёлетняга Дня настаўніка раённы аддзел адукацыі арганізаваў вялікі канцэрт у Доме культуры.

Старшыня РАНА Тарасевіч Р.І., выступаючы перад калегамі сказаў, што ўлады выдзелілі на правядзенне свята не менш за мільён беларускіх рублёў. Напэўна з іх лепшым навучальным установам раёна далі грашовыя прэміі. Глыбоцкая СШ №3 атрымала больш за 200 тысяч рублёў, але былі і такія школы, што займелі толькі каля 20. На гэты конт Раман Іосіфавіч жартаваў, што "яны самі ўмеюць зарабляць".

Падчас канцэрта ганаравалі настаўнікаў, якія пайшлі ў гэтым годзе на пенсію. Старшыня РК прафсаюза работнікаў адукацыі Ламачэнка Р.І. сказала цёплыя словы пра кожнага ветэрана працы. На жаль, многія не змаглі прыйсці, але тыя, хто выходзіў на сцэну, на твары хваляваліся і былі ўдзячны, што пра іх не забыліся. Эмацыянальна выступіла былая настаўніца матэматыкі СШ №3 Варанкова Л.І., якая распавяла пра свой досвед працы з цяжкімі вучнямі і раіла маладым не крычаць на іх, а спрабаваць зразумець, знайсці падыход да кожнага.

У першай палове імпрэзы ўручалі прызы маладым спецыялістам. У гэтым годзе ў шэрагі настаўнікаў раёна ўлілося каля сарака чалавек і многія цёплыя словы, парады, спевы на сцэне РДК былі прысвечаны ім, бо стаць настаўнікам у наш нялёгкі час – гэта даволі адважны, самаахвярны крок. Новым педагогам уручылі кнігі і кветкі.

На канцэрце выступалі Цяліца А., Панькова С., Грамакоўскі Б., вакальны ансамбль СШ №3, навучэнцы дзіцячых садкоў. Працягласць канцэрта перавысілі дзве гадзіны.

Па заканчэнні мерапрыемства нехта пайшоў дамоў, нехта – зноў на працу. Не шмат народу выраша працягваць святкаваць, бо настаўнікам раёна да іх прафесійнага свята далі толькі аванс за мінулы месяц.

Супрацоўнікі «Вольнага Глыбокага», у мінулым выпускнікі вясковых і гарадскіх школ Глыбоччыны, разумеюць наколькі цяжкая інтэлектуальная праца і справа выхавання, а таму жадаюць усім настаўнікам моцнага здароўя, цярпення і вытрываласці.

Любіце і паважайце сябе. З любоўю і пашанай адносцеся да вучняў, бацькоў, да той справы, якой вы прысвяцілі ўсё сваё жыццё. Будзьце патрабавальнымі, добрымі, спагадлівымі. Зразумейце, што дапамагчы сабе зможаце толькі вы самі. Пазбаўляйцеся рабскай залежнасці ад нібыта вышэйшых свету гэтага, не выхоўвайце ў дзяцей пачуцця рабскай пакорлівасці. Жывіце з Богам і Верай, што ён нас не пакіне.

Са святам Вас, настаўнікі Глыбоччыны!

*Л. Шпак*

# Нумізматыка Залесчыны

***Нумізматыка – гістарычная навука, якая вывучае ўсё,што звязана з гісторыяй грошай. Манеты, іх паходжанне, чаканка, тыраж, тэматыка… . Чалавек, які сур`ёзна займаецца нумізматыкай, заўсёды лічыцца надзвычай эрудыраванай асобай, бо з любой манеты можна атрымаць цікавую і карысную інфармацыю, звязаную з гісторыяй і мастацтвам, літаратурай і культурай, палітыкай і этнаграфіяй.***

Залесчына – надзвычай багаты куточак Глыбоччыны на манетныя знаходкі. Артыкул аб гэтым я змяшчаў у раённай газеце "Веснік Глыбоччыны" ў 1998 годзе. Аднак, ідзе час, і новыя знаходкі працягваюць здзіўляць сваёй пастаяннасцю, уражваюць разнастайнасцю. Наспеў час пазнаёміць і чытачоў "Вольнага Глыбокага" са "свежымі" адкрыццямі. Я спадзяюся, што мой матэрыял будзе цікавым для Вас, шаноўныя чытачы, а "чорныя археолагі" не рынуцца скопішчам на агароды нашых вяскоўцаў і не стануць лапаціць зямлю калгаснікаў ды пенсіянераў у надзеі знайсці золата. Усё больш надзённа, проста і звычайна, але ж вельмі цікава… .

Значныя захаванні грошай на тэрыторыі Залескага сельсавета зафіксаваны толькі два, але яны заслугоўваюць увагі. У 1884 годзе каля в. Зубкі быў знойдзены скарб сярэбраных манет XVII ст. (чвэрці талераў, паўталеры, талеры Іспанскіх Нідэрландаў, талеры Аб'яднаных правінцый, 34 экземпляры). У 1976 г. каля в. Залессе (сядзіба графа Молле) трактарам раскапана захаванне манет Швецыі XVII ст. (соліды і драйпёлькеры каралевы Крысціны Аўгусты Вазы 1637 – 1654 г.г.). Хутчэй за ўсё гэтыя скарбы былі схаваны гаспадарамі пад час ліхалеццяў, звязаных з руска – лівонскай вайной 1654 – 1667 г.г. Залескі скарб, напрыклад, быў схаваны, як мне здаецца, якраз перад пагрозай нападу на маёнтак рускіх войскаў цара Аляксея Міхайлавіча. Ды й сапраўды: ў 1654 г. маскоўцамі Залессе было спалена і разрабавана, а апошняя чаканка манет скарбу была датавана тым жа годам. Калі пачыналіся зацяжныя ваенныя дзеянні, багаты гаспадар ў першую чаргу імкнуўся зберагчы сваё дабро і грошы. Закопваў іх у надзейным месцы. А потым здаралася рознае: гінуў або паміраў захавальнік скарбу, губляліся каардынаты сховішча, даводзілася ўцякаць ў мясціны, не ахопленыя вайной, а потым не вярнуцца. Праходзіў час, выпадкова манеты адшукваліся. Для навукоўцаў яны адразу давалі змястоўную інфармацыю аб гістарычных падзеях у нашых мясцінах.

З адналькавымі знаходкамі працей. Манетка выпадкова гублялася, выкідвалася чалавекам з-за непрыгоднасці, выходзіла з абарачэння, нарэшце – кідалася на шчасце. Часта манета клалася пад ніжні вянец зруба пры будоўлі – на дабрабыт (мінулагодняя знаходка ў в. Капыльшчына). Сярод знойдзеных ў зямлі адзінкавых экземпляраў лідэрства па колькасці трымаюць "медзякі" Расійскай імперыі, пачынаючы ад часоў Ганны Іванаўны (1735 г.) і да Мікалая II. Шмат трапляецца манет буржуазнай Польшчы (1923 – 1939 г.г.) і фашысцкай Германіі (пфенінгі 1940 – 1942 г.г.).

Хоць гэта звычайныя нумізматычныя адзінкі, якія асаблівай каштоўнасці не маюць, але ж, даруйце, нельга ацэньваць



кожную манету толькі з боку яе кошту. Тады нумізмат ператвараецца ў звычайнага дзялка–камерсанта. А манету, нават самую танную, мы найперш павінны цаніць як жывога сведку гісторыі. Тыя ж самыя фашысцкія пфенінгі раскажуць Вам цікавы факт: аказваецца ў в. Бушыкі пры немцах каля царквы стаяў будынак, дзе месціўся вайсковы пост. Усе пфенінгі знойдзены па перыметру былога падмурка пабудовы. Наогул, плошча найбольш частых знаходак у Бушыках складае каля 300 метраў вакол царквы. Гэта сведчыць аб тым, што ў мінулым Залеская царква выконвала ролю духоўнага і адміністрацыйнага цэнтра Залесчыны. Каля храма гуртаваліся дамы святароў, школы, гміна і пастарунак. Менавіта на гэтай тэрыторыі за перыяд з 1994 па 2000 гады знойдзена 7 экземпляраў солідаў літоўскай чаканкі 1661 – 1666 г.г. Сам па сабе цікавы факт! Найбольш неардынарнымі былі дзве знаходкі на Залессчыне: шостак Яна III Сабескага 1690 года. Пры ачыстцы і ўважлівым вывучэнні манеты аказалася, што яна фальшывая, падробка. Выраблена не са срэбра, а з білону. А як я яшчэ быў школьнікам, памятаю, сябра знайшоў у в. Зубкі добрай захаванасці срэбны талер часоў Жыгімонта III. Манета была перададзена настаўнікам у музей у Мінск.

Статыстыка знаходак, якую я вяду ўжо больш за дзесяцігоддзе, паказвае, што найбольш частыя выпадкі адшуквання манет прыходзяцца на вясенне – асенні перыяд палявых работ. Самым "ураджайным" аказаўся 1995 год – 8 манет за сезон. Сёлетні год не быў выключэннем. За вясну–лета знойдзены тры манеты ў Бушыках (дзенга 1749 г., 2 капейкі 1863 г., 5 пфенінгаў 1890 г.); капейка 1855 г. ў в. Залессе, "пятак" 1783 г. ў в. Сасноўка і 2 капейкі 1812 года на месцы былой вёскі Мажаі. Па аналізу гэтых знаходак у летапісе Залесчыны можна адкрываць новую старонку гісторыі. Напрыклад, знаходка кацярынінскага "пятака" ў Сасноўцы, як сведчаць мясцовыя старажылы, звязана з тым, што ў гэтым месцы вельмі даўно стаяла карчма. А 5 пфенінгаў кайзераўскай Германіі, магчыма, былі занесены ў Бушыкі салдатам–чужынцам у часы першай Сусветнай вайны…

Так, усё гэта вельмі цікава! Матухна–зямля, як кажуць, мае звычку выштурхоўваць на паверхню свае сакрэты. Таму, як краязнаўца, я дам Вам параду: глядзіце ўважліва пад ногі і можа Вам пашанцуе. Бо так прыемна самому знайсці манетку, адчысціць яе, разглядзець і проста ўявіць сабе: а нехта ж трымаў яе калісьці ў руках? Колькі вякоў яна праляжала? Сведкам якіх войнаў і трагедый была яна? І хай гэта будзе зацёрты мядзяк, але ў руцэ Вашай будзе драмаць жывая гісторыя і памяць продкаў…

*Р. Шарыпкін, Лучайская БШ*




*г. Глыбокае, вул. Шпітальная*

*Фота Ул. Скрабатуна*

## Нацбанк плануе акругляць кошты

**Ужо ў гэтым годзе варта чакаць акруглення ўсіх коштаў да нуля і вывядзення з абароту дробных купюраў наміналам адзін і пяць рублёў, паведаміла крыніца ў Нацыянальным банку Беларусі**

Адпаведна словам крыніцы, адразу пасля інаўгурацыі Аляксандра Лукашэнкі з яго адміністрацыі ў Нацбанк паступіла ўказанне падрыхтаваць пастанову аб акругленні ўжо з першага кастрычніка ўсіх коштаў -- каб яны заканчваліся на нуль.

Аднак спецыялісты Нацбанка лічаць, што акругліць кошты ў такі кароткі тэрмін немагчыма.

Хутчэй за ўсё, "абнуленне" коштаў адбудзецца толькі з першага студзеня 2002 года. З гэтай жа даты плануецца забараніць хаджэнне банкнотаў вартасцю адзін і пяць рублёў (з выявай Акадэміі навук і Траецкага прадмесця), хаця прымаць іх на абмен будуць яшчэ некаторы час у наступным годзе.

*Юрась Свірко*

## Заплаціў 100 долараў за бясплатную паслугу і...

Памятаеце, у Петрасяна была такая інтэрмедыя, дзе ён хацеў спазнаць "непередоваемые ощущения" і заплаціў за бясплатную паслугу 100 долараў?. Не думаю, што аўтар доўга ламаў галаву, каб прыдумаць той сюжэт. Дастаткова з месяц-другі пажыць у Беларусі (ці Расіі) і ў вас будзе тысячы такіх сюжэтаў, узятых "цёпленькімі" з жыцця. Хадзіць далёка не трэба. Надышоў новы навучальны год. Прачытаўшы ў Канстытуцыі пра бясплатную адукацыю, іду плаціць за падручнікі сына. Чым далей – болей. Трэба будзе скідвацца на нейкія спецыяльныя сшыткі, кнігі для пазакласнага чытання, на пакупку мяча, пазней на рамонт класа. Прачытаўшы ў Канстытуцыі, што ў нас бясплатная ахова здароўя, у Ашчадбанку банку бачу пералік платных медпаслуг і кошты на іх. Прайсці медкамісію на вадзіцельскае пасведчанне для мужчын – 2227, для жанчын – 2827 рублёў. Нічога не маю супраць платы за медпаслугі, паслугі адукацыі, але ж трэба тады: па-першае, плаціць людзям за працу, а не за прыхад на работу. Па-другое, трэба мяняць Законы, каб мы ведалі розніцу паміж словамі "платны" і "бясплатны".

*Я.Савойка*

## Не радзіся прыгожай, а радзіся шчаслівай

**У №16(76) ад 10 – 17 верасня мы пазнаёмілі нашых чытачоў з адказамі глыбачанак наконт іх мар пра адзінага рыцара. Большасць апытаных бачаць шчасце ў тым, каб былі грошы, а пасля ўжо каханне. Нічога дзіўнага ў гэтым няма: наш вобраз жыцця даводзіць да таго, што многія спяць і бачаць, калі не трэба будзе лічыць капейчыну, бясконца эканоміць на сабе, дазволіць пабыць жанчынай. А што ж думаюць пра гэта мужчыны? Што ім патрэбна ў жыцці: верная і прыгожая спадарожніца ці яе тугі кашалёк?**

**Іван Афанасьевіч П., 45 год:** Гэтую дылему я вырашыў для сябе 21 год назад, калі ажаніўся на Ірыне. Хлопец я быў відны, без шкодных звычак і дзяўчат хапала. Жылі мы ў Брэсце і знаёмая маёй маці вельмі хацела сасватаць мне дзяўчыну. Яна была старэйшая за мяне на тры гады, інстытут скончыла, працавала ў сталіцы, мела кватэру. Каб я на ёй ажаніўся, то як нагу ў гатовы бот уставіў бы. Ні пра што галава не балела б. Я не згадзіўся. Каб быў зломак які ці хворы, а то з рукамі, нагамі, з галавой, хоць і без інстытута. Каб супрацьстаяць маці, нават з`ехаў з Брэста. І знайшоў сваё каханне ў Глыбокім. Разам з Ірынай, а яна звычайная вясковая дзяўчына, вырашаем жыццёвыя праблемы. Я задаволены тым, што сам выбраў свой лёс.

**Аляксей С., 24 гады:** Мара ў мяне ёсць, а вось дзяўчыны, якая б адпавядала майму ідэалу, няма. Ёсць тыя, з кім можна "адцягнуцца" ў бары, патусавацца, але ж гэта толькі бавім час. Ніводнай дзяўчыне, з якой я бываю ў таверне ці рэстаране, я ніколі не зраблю прапановы стаць маёй жонкай. Ёсць вялікая розніца паміж дзяўчынай для кампаніі і дзяўчынай для жыцця. Хадзіць у той жа бар за грошы дзяўчыны, мне здаецца, хлопцу не да твару. І жаніцца на грашах, мусіць не варта.

**Міхаіл Х., 20 год.** Я студэнт, мне няма калі думаць пра жаніцьбу. Грызу навуку, каб пасля мець грошы і будаваць сям'ю. Дзяўчаты падабаюцца светлавалосыя, з блакітнымі вачыма, стройныя і добрыя. І каб жарты разумелі. Грошы разам будзем зарабляць.

**Паўлік К., 23 гады:** Калі падкажаце дзяўчыну з грашыма, кватэрай, "тачкай", няхай і на год 5-10 старэйшую – ажанюся. Прыгажосць ночку не бачна, мне ўсё роўна. Прыгажосць душой адчуваецца.

**Станіслаў Ж., 25 год:** Я не жанаты. Няма на кім жаніцца. Не смешна зусім. Дзяўчат шмат, адна перад адной яны вылупляюцца, за модай гоняцца, а пустата адчуваецца і пры размовах, і пры сустрэчах. Асоб няма, няма ў каго закахацца. Пазногці фіялетавыя, валасы зялёныя, вусны сінія. Вясёлкі, а не дзяўчаты. І калі вясёлка – гэта цуд прыроды, то дзяўчаты, на жаль, ужо зусім не цуд. Набіваюцца самі, каб піва купіў, каб у бар запрасіў, каб на кватэру прыйшоў… На манер замежных прыгажунь – усё каб хутка. Жаніцца трэба на каханай жанчыне, тайну прыгажосці якой будзеш усё жыццё пазнаваць, а не з першага вечара ўсё будзе вядома.

*Як бачна, для хлопцаў, мужчын, таксама важна нешта большае, чым знешняя прывабнасць ды і на грошы, і беспраблемнае жыццё не кожны паквапіцца. Так сталася, што большасць апытаных – халасцякі, якія шукаюць сваю мару. Таму звяртаемся да дзяўчат: будзьце самі сабой, не імкніцеся быць падобнымі да кіназорак, вучыцеся быць тайнай, якую хлопцы так жадаюць спазнаць.*

Г. Сутула

# Як знішчыць манаполію на радыёэфір у вас дома

Глыбокае, як вядома, знаходзіцца ў нізіне. Таму ні тэле-,ні радыёсігналы да нас у нармальнай якасці не даходзяць. Але альтэрнатыва БТ, ОРТ і РТР ўсё ж ёсць. На “вусатую” антэну, што прадаецца на базары, можна даволі надрэнна прымаць СТС (цалкам забаўляльны тэлеканал, поўны музыкі, серыялаў і кіно), па вечарах НТВ (знакамітае “Независимое Телевидение”, хоць і не такое цікавае пасля сыходу Кісялёва і зорак выпускаў навін), а таксама шэраг літоўскіх і латышскіх каналаў (раней "ВГ" пісала пра гэта падрабязна).

У галіне радыё ў нас таксама, здавалася б, вакуум. Калі прабегчыся па УКХ можна адшукаць хіба што “Маладзёжку” і літоўскі музычны М-1, які апошнім часам пертварыўся ў студыю тэлефонных ток-шоў. На FM пануе амаль што ў поўнай адзіноце Радыё “Сталіца”. Радыё БДУ **"UniStar"** на мяжы Докшыцкага і Глыбоцкага раёнаў ужо чуваць у непрымальнай якасці. Але выйсце ёсць: на тым жа рынку можна прыдбаць адмысловы ўзмацняльнік, які дазволіць вам напоўніць свой FM-прайгравальнік шэрагам мінскіх радыёстанцый. Радыё “Бі-Эй” – найстарэйшая беларуская радыёстанцыя прапануе ў асноўным расійскамоўную музыку, “Стыль” – напаўняе свой трэк-ліст рокам і альтэрнатывай, “Альфа-Радыё” – гэта цікавыя навіны і хіты ўвесь дзень. А таксама вас чакаюць “Рокс”, “Мір”, **"UniStar"**... Гарантыі што прымаць гэта ЎСЁ вы зможаце на нармальнай якасці ніхто не дае. Тым не менш, правядзенне свайго працоўнага дня альбо ўікэнда з музыкай – гэта гарантыя добрага настрою і весялосці, якія так патрэбны ў наш нялёгкі час. Адзіны мінус нова прыстасавання – даволі высокі кошт (каля 20 тысяч). Але што зробіш, калі побач з Глыбокім рэтранслятараў ніхто не паставіў, а таму каб знішчыць манаполію на тэле- і радыёэфір у сябе дома, трэба плаціць!

*А. Храпавіцкі*

Каб хацеў – не прыдумаеш

# Кармілец ты наш

Мая знаёмая, якая вельмі любіць кошак ды сабак, нядаўна расказала мне цікавую гісторыю.

Неяк зімой яе любімы кот, пушысты таўсцюк Яшык, прыцягнуў у падвал вялікі, на паўкілі кавалак паляндвіцы. Знаёмая здзівілася, бо дома на той час мяса не было. “Значыць у некага Яшык скраў вячэру, — вырашыла жанчына і паспрабавала адабраць ў ката здабычу.

Але той злосна завурчэў і ў імгненне сігануў з мясам на вуліцу. Цэлыя суткі Яшык не прыходзіў есці.

—Каб і я столькі за раз з’ела, то і не прагаладалася б, — думала знаёмая.

Праз дні два кот зноў прыйшоў са здабычай. На гэты раз ён прынес ладны вэнджаны куцючок, які даводзілася бачыць у магазінах па дзіка-пужлівай цане за кілю. Ён па-фабрычнаму быў абвязаны моцнымі ніткамі. Мяса было пакусана, пагрызена, скачана ў брудзе, абслюнўлена. Відаць, кот ніяк не мог справіцца з ніткамі. Адбіраць мяса ў ката сэнсу не было. Пасля той вячэры Яшык не прыходзіў дадому амаль трое сутак. Знаёмая не хвалявалася, бо наеўшыся, той спаў у падвале. Яшчэ праз два дні кот прыйшоў ускалмачаны і галодны, бо еў нават прапанаваны хлеб. Але самае дзіўнае, што лапы ў Яшыка былі чамусці нейкага светла-малінавага колеру, які вельмі нагадваў парашок, які раней знаходзіўся ў банках. Калі б злодзей, што палез красці грошы, выпацкаўся б ў яго, то не адмыўся б з добры тыдзень. Па гэтаму колеру і маглі б яго затрымаць. Мая знаёмая смяялася да слёз, калі выказвала здагадку, што нехта, убачыўшы, што знікае мяса, вырашыў злавіць злодзея з дапамогай парашка. Злодзеем аказаўся кот Яшык, які пасля таго здарэння амаль тыдні два не адыходзіў далей парога і ўсё вылізваў свае малінавыя лапы.

Той выпадак яго, відаць, многаму навучыў, бо больш з такой шыкоўнай здабычай ён не прыходзіў. А можа людзі мяса перахавалі ў больш надзейнае месца?

Знаёмая ўзрадавалася, што яе Яшык выправіўся. Год прайшоў без здарэнняў. А тыдзень назад кот прынёс дадому селядзец, які яшчэ не паспелі дастаць з пакета.

-- Што ты будзеш рабіць? -- эмацыянальна гаварыла жанчына. – Сорам ды і толькі. Узяла той селядзец і пайшла па суседзях. Ніхто не прызнаўся чый. Вечарам абчысціла яго. Галаву Яшыку, кармільцу нашаму, аддала, а селядзец з бульбай самі з’елі, не выкідваць жа яго…

Мы доўга смяяліся з ёй удвах. Таўсцюк Яшык, прыжмурыўшы вока, хітра паглядаў на нас, быццам хацеў сказаць: “Не смяіцеся, я яшчэ не тое магу”.

*Т. Закрэўская*

# Хутка на вуліцах Глыбокага будуць расці пальмы

**З кожным годам усё відавочней становяцца прыкметы глабальнага пацяплення клімату. Гадоў дваццаць пяць таму назад у пачатку мая ў ярах і на адхонах дарог яшчэ можна было заўважыць плямы снегу. Дзесьці на Дзень Перамогі ў Глыбокім пачынала з`яўляцца першая кволая лістота на бярозах. Праз тыдзень -- квітнець сады. Цяпер усе гэтыя з`явы адбываюцца ў дваццатых днях красавіка.**

Вінаград стаў у нашым краі ужо неад`емнай садовай культурай. Прычым, з кожным годам з`яўляюцца ўсё лепшыя гатункі. У пачатку верасня, на вуліцы Камсамольскай, мяне пачаставалі смачным салодкім вінаградам, які па сваіх якасцях не саступіць тым гатункам, што прадаюць на глыбоцкай “хітрушцы”, якія завозяць да нас з далёкіх заморскіх краін.

Усе памятаюць сёлетнюю трапічную спёку на Беларусі. Для нас, жыхароў умеранага клімату, гэтая прыродная з’ява нарабіла шмат нязручнасцяў. Добра, што жывём мы ў Беларускім Паазер’і і заўсёды можам змыць спёку ў пяшчотных водах нашых вадаёмаў.

Але чаму такое адбываецца ў прыродзе? Група амерыканскіх астрафізікаў праверыла больш ста версій і прыйшла да высновы, што віной усяму -- Сонца, якое на вялізнай хуткасці набліжаецца да Зямлі. Усё проста: штогадовы зварот нашай планеты вакол Сонца становіцца ўсё меншы!

Са школьнага курса астраноміі ўсе мы ведаем, што поўнае кола вакол свяціла наша планета праходзіць за 365, 2422 сутак. Аднак, год ад году спецыялісты ўстанаўліваюць пэўныя неадпаведнасці. Так, у 1977 г. новы год надышоў на 52 хвіліны пазней, чым чакалася. А вось у 1981 -- на 17 хвілін раней. У 1989 г. Зямля абышла вакол сонечнага дыску за 365 сутак 4 гадзіны 3 хвіліны. Здавалася, нічога асаблівага. А ў 1995-ым -- і таго горш: 3 гадзіны 48 хвілін, у 1998 г. -- 3 гадзіны 36 хвілін, 1999 г. -- 3 гадзіны 33 хвіліны, у 2000-ым прыкладна той самы вынік. А вось 2001 год “парадаваў” сюрпрызам, такім жа незразумелым, як і непрыемным гадзіны 28 хвілін! Нам застаецца толькі канстантаваць: Сонца ўсё набліжаецца.

Больш таго, створаны за апошнія гады графік паказвае, што ў бліжэйшае дзесяцігоддзе сітуацыя не зменіцца: кожны год на планеце будзе больш спякотны, чым папярэдні, і ўсё можа закончыцца вялікай трагедыяй.

У любым выпадку прагнозы несуцяшальныя. З году ў год у нас будзе цяплець у сярэднім на пяць-шэсць градусаў па шкале Цэльсія. Магчымыя адхіленні, прытым, хутэй у большы бок, чым у меншы. Што гэта азначае? Зразумела, у зімовых умовах прыкметнага пацяплення практычна не будзе. Але летам -- зусім іншая справа. У ліпені-жніўні тэмпература можа падвышацца ў сярэднім на пяць градусаў. Так, гэта ўжо адбываецца! Мяркуйце самі. У Маскве верхні пік спякоты ніколі не дасягаў 30 градусаў. 1998 г. даў нам 35 градусаў. Сёлета ж некалькі тыдняў пратрымалася тэмпература пад сорак. Больш чым верагодна, што да 2003 года мы будзем пацець ужо пад 50-цю градусамі вышэй нуля.

Дадзеную паслядоўнасць лёгка працягнуць. 2005-й -- 60 градусаў, 2007-й -- 70. Аб далейшым лепш не думаць. Тым больш што максімальны парог, які можа вынесціь чалавек: +55 -- + 60 градусаў.

Што нас чакае ў перспектыве? За некалькі гадоў Беларусь з зоны ўмеранага клімату можа пертварыцца ў субтропікі, а там, чаго добрага, і ў тропікі. Прастора на некалькі тысяч кіламетраў ад экватара пертворыцца ў выпаленую сонцам пустэльню, якая будзе непрыдатнай для жыхарства людзей і жывёл.

Пажывём, пабачым! Тым больш, што гэта прагназуецца на працягу жыцця нашага пакалення і пакалення нашых дзяцей.

*Л.Шпак*

## Усміхнемся разам

Вяртаецца Ватсан з турпаездкі. Выходзіць з таксі і пытаецца шафёра:

— Як Вы думаеце, адкуль я зараз вяртаюся?

—З Беларусі.

Але як вы здагадаліся, сэр?

Шафёр (сіпла):

—Элементарна, Ватсан! Толькі што Вы хацелі расплаціцца за паездку не англійскімі фунтамі, а нейкімі “зайчыкамі”, а ў адказ на маё абурэнне Вы назвалі мяне “нячэсным”.

***

— Скажыце, Бэрымор, што гэта так вые, што аж душа ледзянее?

— Сабака Баскервілей, сэр…

— А вось гэта.., вось, чулі? Што гэта за жахлівыя гукі?

— Кошка Баскервілей, сэр.

— Бэрымор, а чаму раптам наступіла такая змрочная і пагрозлівая цішыня? Што гэта?

—Рыба Баскервілей, сэр…

***

Юбілей -- гэта калі шмат кветак, а Вы яшчэ жывыя.

***

«Ну і запыты ў Вас» -- адказала база данных і «павісла».

***

## *Дарагі сыночак Дзімуля!*



*Віншуем цябе з дзесяцігоддзем з дня нараджэння. Жадаем, каб твой першы круглы юбілей быў вясёлым, а ўсё жыццё ласкавым і лагодным, як твая мама і цёплым, як летняе сонейка. Будзь здаровым, настойлівым, вучыся на добра і выдатна, расці добрым і чулым чалавекам.*

*Шчаслівага табе лёсу, сыночак!*

*Мама, тата, брат Сярожа*

## БЯСПЛАТНЫЯ ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

### ЗАПРАШАЕМ

**Газета «Вольнае Глыбокае» запрашае на працу прадаўца. Рабочыя дні: чацвер -- панядзелак з 8[00] да 14[00]. Тэл. у Глыбокім 2-37-54, 3-76-19**

### ПРАДАМ:

**-- аўтамабіль УАЗ -- 3962 («хуткая» дапамога), дызель, 1999г.в., колер -- пясочны, у выдатным тэхнічным стане, прабег 16 тыс. км**
**-- ЗІЛ-130, дызель. Тэл. у Шунеўцах 3-43-85 (пасля 21[00])**

**-- аўтамабіль “Фольксваген-Пасат” (карбюратар) у добрым стане.**
**-- касетны магнітафон “Маяк”; стэрэаўзмацняльнік і калонкі S-90 “Радыётэхніка”; тэлевізар “Бярозка”, танна. Тэл. у Глыбокім: 23128.**

**Трохпакаёвую кватэру з усімі выгодамі ў раёне МКК. Тэл. у Глыбокім: 2-48-40**

**-- аднапакаёвую кватэру з усімі выгодамі ў Глыбокім (раён Беразвечча). Тэл. у Глыбокім : 2-49-05**

**-- вязальную ручную машыну «Северянка», куплю піяніна «Беларусь», танна. Тэл. 2-15-11**

**Прадам ці абмяняю 2 дамы на адным участку на двухпакаёвую кватэру з выгодамі. Звяртацца: вул. Леніна, 83**

### ДАПАМАГУ:

**-- падрыхтавацца да ўступных экзаменаў у ВНУ па нямецкай мове. Тэл. у в. Залессе: 3-61-21**

### ЗДЫМУ:

**-- здыму на працяглы тэрмін аднапакаёвую кватэру з выгодамі для аднаго чалавека. Тэл. 3-86-25, (2-11-73 з 8.00 да 18.00, Лена)**

**-- сям`я з двух чалавек здыме 1-пакаёвую кватэру. Тэл 2-14-95 да 19**

**-- здыму гараж у раёне ПТВ-168 тэрмінова на працяглы час. Тэл. у Глыбокім 2-20-07**

**Здыму адна-двухпакаёвую кватэру з выгодамі і тэлефонам у раёне МКК на працяглы тэрмін. Тэл 3-76-19 Яраслаў**

### КУПЛЮ

**ВАЗ-2121 «Ніва» ў любым тэхнічным стане: біты, нерастаможаны, не на хаду. Разгледжу любыя варыянты. Тэл. у Наваполацку: 8-245-73042 (раніца, вечар)**

**Набывайце газету «Вольнае Глыбокае» ў кіёсках «Саюздруку» і ў нашых распаўсюджвальнікаў**

Незалежная рэгіянальная Вольнае Глыбокае газета

Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула

Набор: Юрый Калбасіч, Наталля Янковіч
Дызайн, вёрстка: Васіль Саланінка;
Рэгіянальныя карэспандэнты:
С. Табола, Шаркоўшчынскі р-н, тэл.: 23111;
У. Шык (г. Паставы), тэл.: 22099

Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1099, выдадзена дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Тэлефон: 2 37 54 (Галіна СУТУЛА); тэл/факс 2 41 50.
Адрас для допісаў: вул. Валадарскага, 67, 211800, г. Глыбокае, BELARUS.

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень
Аб'ём -- 1 друкаваны аркуш
Падпісана ў друк 8 кастрычніка 2001 г. у 9[00]

Наклад 1000 паасобнікаў

Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк, вул. Блахіна, 26 Замова 6214